# Саборнае архіпастырскае пасланьне

**БОЖАЙ МІЛАСЬЦЮ СЬВЯШЧЭННЫ САБОР ЯПІСКТПАУ БЕЛАРУСКАЕ АУТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВОСЛАУНАЕ ЦАРКВЫ НА ЧУЖЫНЕ.**

**Да Усейчэснога Духавенства, прэпадобнага Манашаства й усіх Богалюбівых Вернікаў БАПЦ на Чужыне.**

**Улюбленыя ў Хрысьце Дарагія Браты й Сестры!**

**«Хрыстос раджДаецца — Яго слаўце й радуйцеся!» Так сьпявае наша Сьвятая Царква, сьпяваюць усе хрысьціянскія народы, у тым ліку й наш Беларускі Народ ужо хутка 20 вякоў.**

**Ражство Хрыстовае сваім Божаскім сьвятлом асьвяціла паганскую цемру нашых продкаў, сталася ў іх цяжкім жыцьці яснай зоркай, якая вядзе нас да Найясьнейшага Сонца — Госпада Бога, нашага Збавіцеля, Крыніцы вечнага жыцьця, вечнага блажэнства.**

**Таму сяньня нашая душа, якая заўседы імкнецца да свайго Творцы й жадае зьліцца зь Ім, нявымоўна хвалюецца й радасна сьпявае: «Слава на вышынах Богу й на зямлі мір сярод людзей добрай волі» (Лк. 2, 14). Бо ў гэтую Сьвятую Ноч навет уся прырода, як-бы зачараваная сьвятлом Зоркі Віфлеемскай, гатуецца да радаснага Адраджэньня, да спатканьня свайго Валадара.**

**Тым больш радуюцца людзі! Асабліва-ж радаваўся й радуецца, цешыўся й цешыцца ў гэтую Сьвятую Ноч наш пабожны Беларускі Народ! Сваімі простымі й ціхімі душамі й сэрцамі ен як-бы становіцца на калені разам з пастушкамі перад Сьвятым Ангелам, Які абвяшчаў ім паводля Сьв. Евангельля: «І сказаў ім Ангел: ня бойцеся! бо я вам абвяшчаю вялікую радасьць, што будзе ўсім людзям: бо цяпер нарадзіўся ў Віфлееме Збавіцель, Каторы есьць Хрыстос Гасподзь» (Лк. 2, 10—11).**

**Хрыстос — Бог Любві. Таму ў гэты Сьвяты Вечар вялікая Любоў палае з душаў і сэрцаў Беларускіх ціхіх сем'яў, якія сьпяшаюцця часта з далекіх краеў да свайго Бацькаўскага стала з сенам на ім, як да ясьляў, бо хочуць быць рзам із сваімі любымі й разам зь Ім — Народжаным Хрыстом.**

**Гэтую сьветлую традыцыю падтрымоўвала й падтрымоўвае ад вякоў наша Сьвятая Праваслаўная Царква. Гэтая вялікая наша радасьць была, нажаль, зацемненая ад 1946 г. адыходам ад нас нашых Царкоўных Іерархаў, якія пакінулі сваю ўласную паству бяз Пастыраў. Тым большая няхай будзе нашая радасьць цяпер, у гэтым годзе. Гасподзь наш Ісус Хрыстос выслухаў малітвы нашых Сьвятых, ласкавым вокам глянуў на нас і дараваў нашай асірацелай Царкве, а гэтым і нам, двох Іерархаў: Архіяпіскапа Сергія ад Украінскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы й Япіскапа Васілія, прадстаўленага самымі Вамі й хіратанізаванага на Япіскапа Віленскага 19-га сьнежня 1949 г.**

**Таму наша БАПЦ сяньня асабліва цешыцца й радуецца: славіць Ражство Хрыстовае й аднача́сна Адраджэньне свае́й Кананічнай Іерархіі, на падставе 89-га Правіла Карфагенскага Сабору. На падставе І-га Апостальскага Правіла, І-га Правіла другога Усяленскага Сабору мы ўжо маем свой Сьвяшчэнны Сабор Япіскапаў БАПЦ.**

**Дык, Дарагія Браты й Сестры, цешцеся, радууйцеся й слаўце наша вялікае Сьвята — Ражство Хрыстова! Із сьлязамі дзякуйце Яму — Народжанаму Хрысту — за тую вялікую Благадаць, якую Ен прыгатаваў для нас у нашым цяжкім цяперашнім жыцьці. Няхай гэтае пачуцьце радасьці зьяднае нас усіх на ўсім сьвеце й нашай роднай шматпакутнай Зямельцы Беларусі разам з нашым Госпадам Ісусам Хрыстом у вадну гарманійную Богалюбівую сямейку. Няхай змоўкнуць сярод нас — «Варожасьць, сваркі, завісьць, гнеў, нязгода, непаразуменьні» (Гал. 5, 20). Няхай кажны шчыры Сын Беларускага Народу, ці то Духоўнік (Япіскап, сьвяшчэньнік, дыякан), ці то міранін сьпяшаецца злучыцца з нашаю наймацнейшаю апораю — сьвятою БАПЦ, якая, атрымаўшы Родную Іерархію, вымаліць у Усемагутнага Бога — Госпада нашага Ісуса Хрыста далейшую Ягоную Міласьцўь да нас — паварот на нашую мілую, дарагую Бацькаўшчыну — Беларусь, да нашых родных Храмаў, да нашых Братоў і Сестраў.**

**Зь непарушнаю вераю ў Міласэрдзе Божае, з шчыраю любоўю да Яго, разумеючы добра сваю адказнасьць перад Ім і нашай шматпакутнай Беларусяй, Вітаем Вас, улюбленыя Браты й Сестры, зь вялікім Святам Ражства Хрыстовага й надыходзячым Новым Годам. Будзем маліцца да Яго, Нованароджанага Хрыста, Бога нашага, каб ужо ў наступным годзе Ен спадобіў нас праслаўляць Ягонае Нараджэньне пад сваімі роднымі стрэхамі, у сваей Вольнай старонцы.**

**Пасылаем Вам усім нашае Архіпастырскае Багаслаўленьне. Узмацняйце Веру ў сэрцах Вашых. «Будзеце мудрыя на Дабро й няпрыступныя на Зло. Бог-жа міру неўзабаве скрышыць Сатану пад нагамі Вашымі. Ласка Госпада нашага Ісуса Хрыста з усімі Вамі.» (Рымл. 16, 19—20).**

**СЬМІРЭННЫ АРХІЯПІСКАП СЕРГІЙ**
**Глава Сьвяшчэннага Сабору Япіскапаў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.**

**СЬМІРЭННЫ ВАСІЛІ,**
**Япіскап Віленскі Сакратар Сьвяшч. Сабору Япіскапаў БАПЦ на Чужыне.**

**Дана Року Божага 1949,**
**месяца сьнежня, у Розэнгайме,**
**Нямеччына.**

# 4-я СЭСІЯ БНР

У днях 9 і 10 кастрычніка 1949 г. у вадным з местаў Заходняе Нямеччыны адбылася 4-ая Сэсія Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, на якой быў разгледжаны шэраг важнейшых пытаньняў беларускае нутраное і вонкавае палітыкі.

Радныя заслухалі даклад Прэзыдэнта БНР аб міжнародным налажэньні і прынялі рад важных пастановаў у царкоўных і грамадзкіх справах беларускае эміграцыі. Быў ухвалены дадатак да статуту Рады БНР, згодна якога «кандыдатаў у сябры Рады БНР могуць выбіраць і прадстаўляць на зацьверджаньне прэзыдэнта БНР цэнтральныя грамадзкія арганізацыі краеў эміграцыі».

Рада пастанавіла стварыць **спэцыяльны фонд БНР** «Фонд 25-га Сакавіка» для фінансаваньня працы Ураду і Рады БНР. Дзеля гэтае мэты пастаноўлена ўвесьці ўсеагульны штомесячны грамадзкі падатак у вышні, якую сабе дабраахвотна вызначыць кажны беларус-эмігрант. Збор гэтага падатку даручаны Сусьветнаму Аб'еднаньню Беларускай Эміграцыі (САБЭ).

Пасьля справаздачы Ураду БНР і злажэньня ім свае дымісіі Прэзыдэнт БНР даручыў сфармаваць новы Урад дасюлешняму прэм'еру, што і было зроблена на 2-гі дзень. Новы Урад у тайным галасаваньні атрымаў вотум даверу з боку Рады БНР.

**Сакратарыят**

# Выцяг з пратаколу № 2

**паседжаньня VI сэсіі Сьвят. Сабору Епіскапаў УАП Царквы на эміграцыі, адбытага 4. лістапада 1949 г. у ўкраінскім лягеры ў Дылінгене.**

**Былі:** Высоканайсьвятарнейшы Мітрапаліт **Палікарп,** Старшыня Сьвят. Сабору Епіскапаў УАП Царквы, Заступнік Мітрапаліта Высоканайсьвятарнейшы Архіепіскап **Ніканор,** Высоканайсьвятарныя Архіепіскапы **Ігор,** Геннады і Найсьвятарныя Епіскапы **Валадзімер, Вячаслаў** і **Сергі** ды Епіскап **Платон,** Сакратар Сабору Епіскапаў.

**Слухалі:** Прапанову Сьвят. Сыноду УАП Царквы ды Сьвят. Сабору Епіскапаў на аснове просьбаў ад арганізаванага праваслаўнага Беларускага грамадзтва пра высьвячэньне для Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы епіскапа з паданьнем кандыдата на гэтае высокае становішча духоўнае — гіераманаха Васіля (Тамашчыка).

Заслуханы даклад у гўтай справе Епіскапа Платона, Сакратара Сьвят. Сыноду, з прачытаньем адпаведных дакумэнтаў, зь якіх відаць, што епіскапы БАП Царквы на эміграцыі пакінулі яе і ўсе адыйшлі пад юрысдыкцыю Расейскае Зарубежнае Царквы.

Пасьля грунтоўнага абмеркаваньня вышэйназванага пытаньня пра нядолю БАП Царквы на эміграцыі.

**Пастанавілі:** 1) Заслухаўшы даклад у пададзенай Сьвят. Сынодам справе — высьвячэньня для БАП Царквы епіскапа й азнаеміўшыся дакладна з прыкладзенымі да справы матар'яламі, Сьвят. Сабор Епіскапаў падцьвярджае прынцыповую прапанову Сьвят. Сыноду УАП Царквы дапамагчы Братом-Беларусам у вадраджэньні іхнае роднае Гіерархіі, папярэджваючы магчымыя ўхілы кананічныя й навет ад правалсаўя, бо іхная гіерархія высьячаньня 1941—43 г. г. пакінула БАП Царкву й адыйшла да чужое Расейскае Зарубежнае Царквы, асірачіўшы БАП Царкву.

2) Пададзенага кандыдата да хіратоніі на Епіскапа БАП Царквы гіераманаха Васіля (Тамашчыка) на працягу пэўнага часу выпрабаваць і пазнаеміцца бліжэй зь ягонымі паглядамі на архіпастырскае служэньне.

3) Правядзеньне вышэйнадзначанага духоўнага выпрабаваньня пададзенага кандыдата даручыць Архіепіскапу **Геннадыю** і Епіскапу **Вячаславу.** Хіратонію мелі-б правесьці: Архіепіскап **Ігор** і Епіскапы **Вячэслаў** і **Сергі.**

4) Калі гэтае духоўнае выпрабаваньне гіераманаха Васіля (Тамашчыка) пакажа пазытыўныя вынікі, дык пасьля паведамленьня пра гэта Высоканайсьвятарнейшага **Мітрапаліта Палікарпа** й атрыманьня ад Уладыкі **Мітрапаліта** благаслаўленьня, правесьці на просьбу Праваслаўных Братоў — Беларусаў хіратонію гіераманаха Васіля (Тамашчыка) на Епіскапа асірочанае БАП Царквы (Карфаген. 89) на карысьць Яе й на Славу Божую.

**Слухалі:** Заяву Найсьвятарнага Епіскапа Сергія ў Канстанцы ад 4. XI. 1949 г. пра выданьне яму адпускное граматы для пераходу да БАП Царквы для архіпастырскае апекі над праваслаўнымі братамі беларусамі на іхную просьбу.

**Пастанавілі:** а) Даручыць Уладыку Мітрапаліту **Палікарпу** выдаць Епіскапу **Сергію** адпаведную грамату на ягоную просьбу, зьвязаную з просьбаю праваслаўных Беларусаў.

б) Найсьвятарны **Сергі,** не зважаючы на свой пераход у БАПЦ, будзе й надалей апекавацца на францускай зоне й праваслаўнымі ўкраінцамі.»

Арыгінал за належнымі падпісамі.

З арыгіналам згодна,

**Епіскап Платон,**

Сакратар Сьвят. Сыноду УАП Царквы.

# Мэмарыял паняволеных народаў Эўропы

**БІБ.** Дзеля таго, што 17 і 18 кастрычніка радыестанцыі Лендану й Нью-Ерку паведамілі аб тым, што Генэральны Сакратар Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў Трыгвэ Лі прыняў мэмерыял або палажэньні народаў у краех Паўночна-Усходняе, Цэнтральна — й Паўдзенна-Усходняе Эўропы, што знаходзяцца пад тыраніяй маскоўскага камуністычнага імпэрыялізму, чытачы «Бацькаўшчыны» зьвярнуліся з просьбаю падаць да публічнага ведама тэкст гэтага мэмарыялу. Ідучы на спатканьне гэтай просьбе, БІБ зьвярнулася да Ураду БНР і атрымала копію мэмарыялу, які тут і публікуецца.

**Яго Эксцэленцыі Спадару Трыгвэ Лі,**
**Гэнэральнаму Сакратару Задзіночаных Нацыяў.**

**Ваша Эксцэленцыя!**

У чацьвертай гадавой справаздачы Генэральнай Асамблеі Задзіночаных Нацыяў Вы аддалі адмысловую ўвагу Дэклярацыі Людзкіх Правоў і падчыркнулі важнасьць абароны гэтых правоў для будучага разьвіцьця міжнародных дачыненьняў у наступных словах:

«У змаганьні за пашырэньне захоўваньня людзкіх правоў у сьвеце мінулы год бачыў адзін з найбольш патэнцыяльна вызначных развояў гісторыі ў вабвешчаньні Генэральнай Асамблеяй Дэклярацыі ЛюдзкіХ Правоў.»

2) Гэтая Дэклярацыя, прынятая Асамблеяй 10-га сьнежня 1948 г. абвяшчае, між іншага, што

«усе людзкія істоты народжаныя вольнымі й роўнымі ў годнасьці й правох» (Арт. 1)

«кожны ўпраўнены да ўсіх правоў і свабодаў, выкладзеных у гэтай Дэклярацыі, бяз вырозьненьня якого-небудзь роду, такога як раса, колер, род, мова, рэлігія, палітычныя ці іншыя пагляды, нацыянальнае ці сацыяльнае паходжаньне, нараджэньне ці стан» (Арт. 2)

«кожны ўпраўнены да сацыяльнага й міжнароднага парадку, у якім правы й свабоды, выкладзеныя ў гэтай Дэклярацыі, могуць быць поўнасьцю рэалізаваныя» (Арт. 28)

3)Гэтыя людзкія правы, устаноўленыя ў Дэклярацыі, ігнаруюцца й парушаюцца ў краех Паўночна-Усходняе, Цэнтральына- й Паўдзенна-Усходняе Эўропы цяпер пад савецкім панаваньнем.Упаасобку ніжэйпадпісаныя ў стане давесьці, што ў іхных краех камуністычныя кіраўнікі сыстэматычна робяць наступныя злачынствы й крыўды:

- а) самовольны арышт і затрыманьне;
- б) выгнаньне й высылкі;
- в) жорсткае, нялюдзкае ці зьневажальнае абыходжаньне або пакараньне;
- г) нявольніцкая праца;
- д) пазбаўленьне або абмежаньне свабоды руху;
- е) пазбаўленьне свабоды думкі й пагляда;
- ж) самавольнае ўмяшаньне ў прыватнае, сямейнае, хатняе жыцьце й ліставаньне;
- з) пазбаўленьне свабоды сходаў або накіданьне абавязку належыць да арганізацыяў (упаасобку для моладзі й дзяцей);
- і) самавольнае абмежаньне свабоды веры й сумленьня;
- к) самавольнае пазбаўленьне нацыянальнасьці;
- л) пазбаўленьне права вольнага абіраньня свайго ураду.

4)Адна з мэтаў Задзіночаных Нацыяў, паводля арт. 1 Хартыі, — «дасягнуць міжнароднага супрацоўніцтва ў разьвязаньні міжнародных праблемаў эканамічнага, сацыяльнага, культурнага або гуманітарнага характару й у ўздыманьні ды падахвочаньні да павагі да людзкіх правоў і асноўных свабодаў для ўсіх бяз вырозьненьня што да расы, роду, мовы або рэлігіі».

І ў арт. 56 «усе сябры Задзіночаных Нацыяў забавязваюцца ўшчынаць злучаныя й паадзіночныя дзеяньні ў супрацоўніцтва з Арганізацыяй дзеля дасягненьня мэтаў, выкладзеных у арт. 55.»

5) Паклікаючыся на мэты й прынцыпы Задзіночаных Нацыяў і на забавязаньні, прынятыя іхнымі сябрамі, ніжэйпадпісаныя маюць гонар прасіць Генэральную Асамблую Задзіночаных Нацыяў дасьледваць сытуацыю, што пануе ў іхных адпаведных краех, заініцыяваць акцыю, прадбачаную ў арт. 56 Хартыі, і ўжыць усе магчымыя мерапрыемствы дзеля аднаўленьня свабоды й незалежнасьці — адзінае эфэктыўнае гарантыі людзкіх правоў — у краех, што гвалтоўна пазбаўленыя яе.

Ніжэйпадпісаныя гатовыя забясьпечыць Генэральную Асамблею або іншыя кампэтэнтныя органы Задзіночаных Нацыяў, ці ўсе калектыўна, ці кажны ўпаасобку за свой собскі край, канечнымі дакумэнтамі ў падмацаваньні вышэйсфармуляваных абвінавачаньняў.

Прымеце, Эксцэленцыя, выраз нашае шчырае да Вас пашаны.

**За Беларусь:**
**Мікола Абрамчык,** Прэзыдэнт Рады Беларускае Народнае Рэспублікі,
**Лявон Рыдлеўскі,** за Міністра Замежных Справаў Ураду Беларускае Народнае Рэспублікі на выгнаньні.

**За Баўгарыю:**
**Д. Матзанкіеў,** ад імя Баўгарскага Нацыянальнага Камітэту «Вольная й Незалежная Баўгарыя».

**За Чэхію:**
Генэрал **Л. Прхаля,** Кавалер Ордэну Заслугі, ад імя Чэскага Нацыянальнага Камітэту.

**За Эстонію:**
Эстонская Нацыянальная Рада
**Аўгуст Рэй,** Прэзыдэнт,
**Гэльмут Маанды,** Генэральны Сакратар.

**За Вугоршчыну:**
Вугорская Нацыянальная Рада
**Джордж Б. Бэсэн'ей,** Старшыня Камітэту Замежных Справаў Вугорскае Нацыянальнае Рады.

**За Лацьвію:**
**І. Цэльмс,** Прэзыдэнт Лацьвійскае Нацыянальнае Рады.

**За Летуву:**
**М. Крунавічыюс,** Старшыня Вярхоўнага Камітэту Вызваленьня Летувы й Выканаўчае Рады.

**За Польшчу:**
**М. Сакалоўскі,** Міністар Замежных Справаў,
**І. Лукасевіч,** Заступнік Старшыні Нацыянальнае Рады Польскае Рэспублікі.

**За Славаччыну:**
**Кароль Сідор,** Прэзыдэнт,
**Пэтэр Прыдавок,** Генеральны Сакратар Славацкае Нацыянальнае Рады замежамі.

**За Украіну:**
**Ісаак Мазэпа,** Старшыня,
**Сьцяпан Вытвыцкі,** Заступнік Старшыні.

**За Югаславію:**
**Слабадан Іовановіч,** Прэзыдэнт Югаслаўскага Нацыянальнага Камітэту, былы Прэзыдэнт Усепартыйнага Югаслаўскага Ураду.

**Увага БІБ:** Генэральны Сакратар Задзіночаных Нацыяў 17. 10. 1949 г. паведаміў Сп. Прэзыдэнта М. Абрамчыка аб атрыманьні Мэмарыялу, які **«належна ўзяты на ўвагу ў вадпаведнасьці з працэдураю, устаноўленаю Задзіночанымі Нацыямі».** Пры гэтым да свайго ліста ен далучыў копію апэрацыйнае часткі рэзалюцыі 75 (V) Эканамічнае й Сацыяльнае Рады, папраўленае рэзалюцыяй 116 А (VI). Апрача таго, ад цэлага шэрагу дэлегацыяў на сэсіі ЗН, якія таксама атрымалі гэты мэмарыял, Сп. Прэзыдэнтам былі атрыманыя лісты, у якіх яны выказалі свае спачуваньні й сымпатыі да паняволеных бальшавікамі народаў.

# 3-ці Агульны Зьезд

**беларускага студэнцтва ў Бэльгіі**

У часе ад 16 да 22 верасьня 1949 г. адбыўся ў Лювэне, Бэльгія, 3-ці Агульны Зьезд Цэнтралі Беларускіх Студэнцкіх Арганізацыяў на Чужыне, у якім прыймала удзел беларуская студэнцкая моладзь Англіі, Францыі і Нямаччыны. Гэта быў першы зьезд беларускага студэнцтва паза Нямеччынай, на якім былі рэпрэзэнтанты з розных краінаў.

**Прэзыдэнт Беларускае Народнае Рэспублікі, інж. М. Абрамчык,** сваею прысутнасьцю на адчыненьні і жывым зацікаўленьнем нарадамі ня толькі дадаваў зьезду навагі але і паказаў, што нашае грамадзтва належна дацэньвае значэньне студэнцтва як такога, асабліва на чужыне, дзе ня шмат есьць беларускае інтэлігенцыі. Таксама вялікае зацікаўленьне Зьездам выявіла беларуская прэса й уплывовыя студэнцкія кругі, якія пачынаюць жыва цікавіцца беларускімі пытаньнямі ня скрываючы сваё спагады цяжкай нядолі нашага народу.

Пасьля прачытаньня прывітальных лістоў і тэлеграмаў ад розных беларускіх і чужынецкіх арганізацыяў і асобаў, **старшыня уступаючага ураду ЦБСА у сваей прамове падчыркнуў заданьні, якія сяньня стаяць перад беларускім студэнтам на чужыне** і якія абавязкі чакаюць яго на Бацькаўшчыне. Навязваючы да да гэтых заданьняў і абавязкаў, ен заклікаў студэнтаў уключыцца у грамадзкую працу, ня гледзячы на усе тыя цяжкасьці, якія трэба перамагчы пры здабываньні фаховае асьветы ў чужынецкім краі, — гэта зблізіць студэнцтва з грамадзтвам і ўвальле яго высілкі ў змаганьне беларускага народу як цэласьці за праўду і свабоду.

Пасьля прывітальных слоў сп. Прэзыдэнта, **а. Робэрт (бэльгіец), вялікі прыяцель беларусаў ў Бэльгіі,** у вельмі гарачай і прыязнай прамове зазначыў, што «студэнцтва павінна памятаць, што яно есьць ідэйнай часткай грамадзтва і таму нарады навінны ісьці ў гэтым кірунку. Беларускія студэнты павінны не забывацца, што зь іх будзе большая карысьць для Беларусі і Захаду, калі яны не расплывуцца ў чужынецкім моры, а наадварот, калі захаваюць свае чыста беларускія вартасьці й асаблівасьці». Чуць такія патрыятычныя словы з вуснаў чужынца — дасюль нам не здаралася.

На Зьездзе было даклядна разледжана жыцьцё і праца беларускага студэнцтва ў розных краінах Заходняе Эўропы. Ня гледзячы на вялікія цяжкасьці, ЦБСА за свой перыяд дзейнасьці ад 3. II. 1947 да 3. X. 1949 выказалася вялікімі дасягненьнямі як у студэнцкім, так і грамадзкім жыцьці. Асабліва трэба адзначыць удачу здабыцьця грунту для беларускіх студэнтаў на лювэнскім унівэрсытэце, дзе у сучасны момант студыюе ўжо 14 студэнтаў і асаблівыя заслугі ў гэтым напрамку сп. Прэзыдэнта БНР. Студэнцкія згуртаваньні Нямеччыны ў Марбургу, Мюнхэне і другіх студэнцкіх асяродках дзякуючы цяжкім матарыяльным умовам і эміграваньню студэнтаў у іншыя краіны, трацяць што раз больш на значэньні. Лік студыюючых памяншаецца з кожным днем. Гэта выразна сьветчыць аб тым, што жыцьцё беларускага студэнцтва ў Нямеччыне хутка замрэ. Затое пачынаюць мацнець студэнцкія асяродкі Англіі, Бэльгіі, Францыі. І так з радасьцю трэба адзначыць, што паўсталы новы студэнцкі асяродак у Лювэне, мае даволі выразныя пэрспэктывы на будучыню, бо ўжо есьць магчымасьць атрыманьня далейшых 30 стыпэндыяў. Трэба адзначыць, што мясцовыя ўнівэрсытэцкія ўлады у Любэне надзвычай прыхільна ставяцца да беларускіх студэнтаў, і таму можна спадзявацца, што гэты асяродак адыграе вялікую ролю ў гісторыі беларускага студэнцтва.

Падчас дыскусіі над пытаньнем адносінаў студэнта да беларускага вызвольнага руху, **Зьезд сьцьвердзіў, што мэтай яго есьць ня толькі вучоба але і актыўнае змаганьне у радох сьведамага беларускага грамадзтва пад сьцягам Беларускае Народнае Рэспублікі,** за рольную і незалежную Бацькаўшчыну.

Нарады прайходзілі вельмі ажыўлена і хаця яны трывалі 5 дзен, ніхто не адчуваў, што ен змучаны ці менш зацікаўлены ў абгавораных справах. Усе пытаньні былі правалкаваныя да дэталяў.

З мэтай пашырэньня арганізацыйных рамаў ЦБСА аказалася патрэба ў зьмене некаторых пунктаў статуту. **Зьезд прыняў новы назоў арганізацыі, а менавіта: Цэнтраля Беларускіх Акадэміцкіх Арганізацыяў (у скарочаньні: ЦБАА),** што дае магчымасьць належаньня да яе як тым, хто ўжо закончыў свае студыі, так і тым, хто іх яшчэ не пачаў, а мае на гэта права.

**На старшыню ЦБАА быў выбраны дасюлешні старшыня ЦБСА сп. Б. Рагуля,** а ў склад ураду ўвайшлі амаль выключна сябры з Лювэнскага Студэнцкага Згуртаваньня, каб такім чынам зрабіць урад як найбольш працаздольным. На кожную краіну, дзе маюцца беларускія студэнты, урад ЦБАА мае права вызначыць сваіх прадстаўнікоў сувязі. **Старшыней Стыпэндыяльнага Фонду** — вельмі паважнай арганізацыі пры ЦБАА — **быў выбраны а. др. Сіповіч** з Англіі, дзе на сеньняшні дзень есьць найбольшыя можа магчымасьці сабраць грашовыя сродкі для памогі студэнтам.

Па заканчэньні афіцыйнай часткі, **прыняў дэлегатаў на аўдыенцыю рэктар унівэрсытэту у Лювэне.** На прыняцьці арганізаваным сябрамі Беларускага Студэнцкага Згуртаваньня ў Лювэне, дэлегаты мелі нагоду пазнаеміцца з прафэсарамі унівэрсытэту і студэнцкімі прадстаўнікамі розных нацыянальнасьцяў, ды абмяняцца зь імі думкамі і сваімі ўражаньнямі. Студэнты каталікі былі прыняты на адмысловай аўдыенцыі Я. Э. **біскупам Сьлескансам.**

На заканчэньне БСЗ у Лювэне зладзіла для дэлегатаў вельмі цікавую экскурсію, падчас якой былі зьведаны: Бібліятэка Унівэрсытэту Лювэн, Музэі Бэльгійскага Конго і сталіца Бэльгіі — Бруксэля, з якой асабліва асталіся ў памяці старажытная будоўля ратушы, касьцела, драгацэнныя экспанаты Музэю Старога Мастацтва ды ўладжаньні бэльгійскага парляманту і сэнату.

На разьвітаньне з Бруксэляй дэлегаты й госьці наведалі Каралеўскую Опэру, дзе ў той час ставіліся «Апавяданьні Гофмана».

### РЭЗАЛЮЦЫЯ

**прынятая 3-ім Агульным Зьездам Цэнтралі Беларускіх Акадэміцкіх арганізацыяў на Чужыне.**

Дэлегаты ад беларускіх акадэміцкіх арганізацыяў Ангельшчыны, Бэльгіі, Францыі і Нямеччыны, сабраўшыся ў Любэне (Бэльгія) на 3-ці Агульны Зьезд ЦБАА, пасьля усебаковае дыскусіі над пытаньнем палітычнага твару беларускага студэнцтва і становішча ЦБАА адносна актуальных праблемаў беларускага вызвольнага руху, згодна выявілі волю падпарадкаваць беларускае арганізаванае студэнцтва, у яго грамадзкай працы, дзяржаўным органам Беларускае Народнае Рэспублікі.

Зьезд уважае, што ў сяньняшняй стадыі напружанага змаганьня нашага народу за палітычнае вызваленьне і адбудову беларускае дзяржаўнасьці, беларускае студэнцтва ня можа астацца збоку, а павінна заняць у ім належнае яму па традыцыі месца авангарду і актыўна, ды з энтузіязмам падтрымаць дзяржаўныя органы БНР ува ўсіх іхніх пачынаньнях.

# Інтэрв'ю М. Абрамчыка

**Прэзыдэнта Беларускае Дэмакратычнае Рэспублікі.**

У бэльгійскай цэнтральнай газэце «Ля лібр Бэльжік» ад 21. 10. г. г. зьмешчана інтэрв'ю Прэзыдэнта БНР інж. М. Абрамчыка. Падаем вытрымкі з гэтага інтэрв'ю.

«Як мы ўжо абвяшчалі, — піша газэта, цяпер беларускія студэнты маюць важны кангрэс у Лювэне.

М. Абрамчык, прэзыдэнт Беларускае Дэмакратычнае Рэспублікі, канцылярыя якога знаходзіцца у Парыжы, прыбыў з францускай сталіцы, каб прысутнічаць на зьездзе сваіх суродзічаў.

Мы папрасілі прэзыдэнта Абрамчыка падзяліцца з намі сваімі ўражаньнямі аб сытуацыі палітычнай і рэлігійнай у сваей краіне.

— Беларусь, гаворыць ен, лічыць 18 мільенаў душ. З пункту гледжаньня рэлігійнага, краіна дзеліцца паміж праваслаўных (70%) і каталікоў (25%), ня лічачы розных сэктаў. У заходніх краінах, падкрэсьлівае прэзыдэнт, вельмі часта спрабуюць зьмешваць беларускі народ і расейскі, ігнаруючы гістарычную праўду.

### ВЯЛІКІ НАЦЫЯНАЛЬНЫ БЕЛАРУСКІ КАНГРЭС

Далей прэзыдэнт зрабіў нам наступнае заяўленьне:

Першы Нацыянальны Беларускі Кангрэс меў месца ў Менску 18 сьнежня 1917 г. У канцы другога тыдня працы, дэлегаты абвясьцілі амаль аднагалосна, утварэньне Беларускай Дзяржавы. Расейская бальшавіцкая партыя, ужо дайшоўшая да ўлады, аказалася дужа варожай да ідэі аўтаномнасьці. Сталін выслаў у падмацаваньне супраць беларусаў панцырную дывізію і сібірскіх стралкоў, якія мелі на заданьне разагнаць кангрэсістаў. Не ўважаючы на гэтую «асаду» кангрэс прадаўжаў сваю працу. Ен надаў поўную ўладу Радзе (правізарычны парлямэнт) падобна як-бы Выканаўчаму Камітэту, аж да таго часу, калі будуць праведзеныя вольныя выбары ў Беларусі. 25 сакавіка 1918 г. Рада абвесьціла Незалежнасьць Беларускае Дзяржавы. Гэтая дата сталася нацыянальным сьвятам прыгнечанага беларускага народу.

### БЕЛАРУСКІ АПОР

Апор супроць нямецкага акупанта каштаваў беларусам больш за два мільены ахвяраў толькі паміж цывільнага жыхарства.

Пасьля разгрому тэўтонскай арміі, ваенны савецкі ўрад ўвеў рэжым тэрору. Большая часьціна беларускай моладзі, ведаючы напярад, што можа прынесьці Беларусі савецкае «освобожденіе» настаралася злучыцца з партызанамі, што засталіся пасьля адыходу Немцаў.

### УРАД НА ВЫГНАНЬНІ

Усе высілкі Масквы на працягу 30 год ліквідаваць дэмакратычны урад засталіся дарэмнымі. М. Абрамчык атрымаў праз тэстамэнт упаўнаважаньні прэзыдэнта Захаркі. Парлямэнт на выгнаньні налічвае цяпер 158 асоб, расьсеяных на ўсім сьвеце. Паміж іх толькі 30 засталіся на Беларусі, два ў Аўстраліі, тры ў Амэрыцы лацінскай, два ў Злучаных Штатах, адзін у Канадзе, рэшта сяброў Рады знаходзіцца ў Эўропе. Дзевяноста дэлегатаў маюць магчымасьць аб'яднацца. Мэта, да якой імкнуцца Беларусы, гэта палітычная незалежнасьць Беларусі ў яе этнаграфічных граніцах.

### НАДЗЕЯ Й ВЕРА У БУБУЧЫНЮ

На канчатак, прэзыдэнт Абрамчык выказаў нам свае надзеі на вольную будучыню свайго народу.

— Воля беларускага народу адбудаваць сваю незалежнасьць, — зазначыў ен, несьмяротная, не ўважаючы на палітычны тэрор, эканамічны і культурны ўціск праводжаны расейцамі. Наадварот, у гэтых драконаўскіх умовах беларускі народ здолеў разьвіваць сваю нацыянальную культуру і цывілізацыю. Сяньня ен цьверда стаў на шлях бязьлітаснага змаганьня за сваю Незалежнасьць.»

# БНР У ДАКУМЭНТАХ

(Працяг Гл. № 16/60)

**Пратакол сходу Прэзыдыюму Рады БНР ад 6. VI. 20 г.**

**Слухалі:** Пытаньне аб тым, што некаторыя Члены Ураду (Рады Міністраў) Беларускай Народнай Рэспублікі, па варунках варожых акупацыяў на Беларусі, не маглі ўзяць удзелу ў даручанай ім Урадовай працы, што адбілася і адбіваецца на працы Рады Народных Міністраў.

**Пастанавілі:** Каб пазбавіцца шкодаў, якія выплываюць з гэтага ненармальнага становішча, — скарыстаць надзвычайныя паўнамоцтвы, перададзеныя Радай Беларускай Народнай Рэспублікі 13-га сьнежня 1919 г. Прэзыдыюму Рады і даручыць Старшыні Рады Народных Міністраў, гр. Вацлаву Ластоўскаму, зрабіць належныя й вымаганыя варункамі Дзяржаўнай працы рэарганізацыі габінэту Рады Народных Міністраў з уключэньнем у яе склад новых асоб і партфэляў.

Віцэ-Маршалак Прэзыдыюму Рады БНР

**В. Захарка.**

Віцэ-Маршалак Прэзыдыюму Рады БНР

**Палута Бадунова.**

Сакратар Прэзыдыюму Рады БНР

**Яз. Мамонька.**

(«Бюлетэнь № 1 Рады Беларускай Народнай Рэспублікі», бал. 16. «Замежная Беларусь», бал. 131.)

### РЭЗАЛЮЦЫЯ

**Беларускай Нацыянальна-Палітычнай Нарады ў Празе.**

Беларуская Нацыянальна-Палітычная Нарада ў Празе, абмеркаваўшы пытаньне аб дзяржаўным будаўніцтве Беларусі, у поўнай сьвядомасьці надзвычайнай вагі гэтага пытаньня, зазначае:

а) Беларусь зьяўляецца краем працоўнага беларускага сялянства, рабочых і працоўнай інтэлігенцыі, дзеля чаго Беларусь павінна быць дзяржавай працоўнага народу;

б) Беларусь павінна быць дзяржавай непадзельнай і ні ад каго незалежнай. Нарада зазначае, што ніякія, гэтак званыя, арыентацыі не могуць быць падставай дзяржаўнага будаўніцтва Беларусі. Адзінай асновай дзяржавы, адзінай сілай, якая збудуе Беларусь і забясьпечыць ей нармальнае развіцьцё, зьяўляецца сам працоўны беларускі народ;

в) Пасьля зьдзейсьненьня беларускай Дзяржаўнасьці, пасьля таго, як на беларускай зямлі запануе ўласная, ні ад каго незалежная ўлада, Беларусь працягне руку згоды дзеля вольнага саюзу ўсім народам, з якімі жыве побач і якіх яна лічыць за роўных братоў сваіх. Першай мэтай гэткага саюзу павінна быць узаемная абарона народных вольнасьцяў, якія здабудуць народы сваей барацьбой.

Прыймаючы пад увагу сучасны стан Беларусі, Беларуская Нацыянальна-Палітычная Нарада зазначае:

а) што адзіным законадаўчым органам Беларусі зьяўляецца Рада БНР, маючая праемсьпьвеннасьць улады ад Усебеларускага Кангрэсу 1917 г.;

б) што адзінай адказнай уладай Беларусі зьяўляецца Урад БНР, маючы мандат ад Рады БНР.

Прыймаючы пад увагу, што праца Ураду БНР зьяўляецца адпавядаючай тым мэтам, якія прыняты Нарадай і што ў першую чаргу яна кіруецца да абароны непадзельнасьці і незалежнасьці Беларусі, Беларуская Нацыянальна-Палітычная Нарада пастанаўляе аб'яднаць каля Ураду БНР сілы ўсіх беларускіх партыяў, арганізацыяў і груп дзеля дзяржаўнага будаўніцтва Беларусі.

Прага-Чэская, 28-га верасьня 1921 г.

(«Замежная Беларусь», бал. 63—64.)

### ПРАТАКОЛ

**Аб'еднанага Сходу Членаў Прэзыдыюму Рады і Ураду БНР ад 23 жніўня 1923 г. м. Коўна**

Былі прысутныя: П. Крэчэўскі, А. Цвікевіч, В. Захарка, Л. Заяц, Я. Варонка і У. Пракулевіч.

**Слухалі:** Заяву Старшыні Ураду БНР. А. Цвікевіча аб створаным Урадзе у складзе: Старшыні Рады Міністраў і Міністра Заграгічных Спраў А. Цвікевіча, Міністра Асьветы Я. Варонкі, вык. аб. Міністра Фінансаў В. Захарка, Дзяржаўнага Кантралера Л. Зайца і Дзяржаўнага Пісара У. Пракулевіча.

**Пастанавілі:** Новы склад Ураду прыняць да ведама. Пацьвердзіць, што ўся праца Ураду вядзецца згодна пастановы Рады Рэспублікі ад 13 сьнежня 1919 г. Прэзыдыюмам Рады і Радай Народных Міністраў супольна, пад кіраўніцтвам Старшані Рады Рэспублікі П. Крэчэўскага.

Увага: Прэзыдыюмум Рады і Рада Народных Міністраў асобна не засядаюць.

Старшыня Рады Рэспублікі **П. Крэчэўскі.**

Старшыня Рады Міністраў **А. Цвікевіч.**

Сябры Рады Міністраў: **В. Захарка, Л. Заяц, Я. Варонка.**

Дзяржаўны пісар **У. Пракулевіч.**

(«Замежная Беларусь», бал. 126.)

### МЭМАРАНДУМ У ЛІГУ НАЦЫЯЎ
### АБШАР І НАСЯЛЕНЬНЕ

Беларуская Народная Рэспубліка па большасьці (ад 62% да 82%) беларускага жыхарства абыймае поўнасьцю 6 губэрняў былой Расеі: Віленскую, Гарадзенскую, Віцебскую, Менскую, Магілеўскую, Смаленскую, і некаторыя прылягаючыя паветы сумежных губэрняў. Плошча абшару выносіць 415.453 кв. клм., з насяленьнем, па статыстыцы расейскай 1915 г. у 15,521.900 чалавек.

Сумежаць з Беларусяй на поўнач-усходзе — Вялікаросія, на поўдзень — Украіна, на захадзе і поўнач-захадзе — Польшча, Нямеччына, Літва і Латвія.

### ЭКАНАМІЧНЫ СТАН

82% жыхарства займаецца сельскай гаспадаркай і жывелагадоўляй. Асноўны фонд багацьця Беларусі складае зямля і лес. Зямельны абшар раскладаецца так:

| | | |
|---|---|---|
| Аромай зямлі | 15,912.000 | кв. гэкт. |
| Лонак і сенажаці | 5,668.000 | „ „ |
| Лесу | 11,719.000 | „ „ |
| Балот і нягоднай зямлі | 5,559.000 | „ „ |
| Рэчак і вазер | 2,518.000 | „ „ |
| Усяго | 41,376.000 | „ „ |

### СЕЛЬСКА-ГАСПАДАРЧАЯ ПРАДУКЦЫЯ

На дадзеных 1914 г. урода пры трохпольнай сыстэме і самай нізкай сельска-гаспадарчай культуры выносіла у 6 губэрнях Беларусі 590 мільенаў пудоў, а тым ліку жыта — 150 мільен., аўса — 50, ячменю — 18, бульбы — 350, льнянога і канаплянага семяні — 7 мільенаў і інш.

Сабрана было валакна льну — 6,600.000 пудоў і пянькі 1,500.000 пуд.

Із сельска-гаспадарчых прадуктаў, апрача хлеба экспартаваліся ў Польшчу, Вялікаросію і заграніцу па дадзеных таго-ж году:

| | | |
|---|---|---|
| Малочных прадуктаў | 226.800 | пуд. |
| Бітай і жывой птушыны | 996.200 | „ |
| Кароўяга мяса | 244.000 | „ |
| Сала і тлушчаў | 149.000 | „ |
| Крахмалу | 764.000 | „ |
| Алейнага семя | 3,000.000 | „ |
| Кармовых траў | 854.000 | „ |
| Жмыхаў | 2,000.000 | „ |
| Невырабленых скураў | 432.000 | „ |
| Чыстага сьпірытусу | 12,000.000 | „ |
| Піва | 3,000.000 | ведзяр |
| Меду | 50.000 | „ |

(«Замежная Беларусь», бал. 132—133.)

(Працяг будзе.)

